Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

26 лістапада 1997 года
СЕРАДА
№ 70
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 1000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Пад дахам незавершанага завода

**БЯРОЗА.** Дзевяць гадоў таму пачалося будаўніцтва завода спажывецкай і транспартнай тары — прадпрыемства ўнікальнага, якому ў рэспубліцы няма аналагаў. Але, як у нас прынята, работы хутка тут заглухлі. Спрабавалі на працягу двух гадоў прадаць незавершанае будаўніцтва на аўкцыёнах, але не знайшлося пакупніка.

Каб захаваць неяк тыя вытворчыя плошчы, што паспелі ўзвесці, устаноўлена на іх лінія па вырабу закатачных накрывак. Яе магутнасць — 50 тысяч штук у змену. Але гэтага пакуль не дасягнулі, бо абсталяванне псуецца, ды і рабочыя толкам не асвоілі тэхналогію.

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, каму належыць прадпрыемства, абяцае на будучы год зрабіць заводу каралеўскі падарунак: набыць лінію лакіравання і літаграфавання і лінію па выпуску металічных вінтавых накрывак. Праўда, пакуль гэта абяцанні, а іх у нас, як мы ведаем, чакаюць не толькі тры гады — значна больш.

### Заданне выканана, работы працягваюцца

**ІВАЦЭВІЧЫ.** І пасля выканання асноўнага ўрадавага задання па расчыстцы 6753 гектараў лясных масіваў у Брэсцкай і Мінскай абласцях, якія пацярпелі ад летняга ўрагану, работы працягваюцца.

Засталося вывезці прыкладна 50 тысяч кубаметраў бураломy. Каля 40 тысяч «кубоў» драўніны знаходзіцца ў балоцістых месцах каля пасёлка Целяханы, астатнія — на шэрагу ўчасткаў Міншчыны.

Як паведамілі ў Целяханскім лясгасе, затрымка ў тым, што немагчыма падаць у цяжкадаступныя месцы транспарт для вывазу драўніны. Работнікі чакаюць маразоў, калі змогуць прайсці трактары і машыны.

Да 1 лістапада сумеснымі намаганнямі шэрагу ведамстваў паднята 868 «кубоў» паваленага ўраганам лесу. Пасля канчатковага завяршэння работ натуральны аб'ём урону ў лясной гаспадарцы рэспублікі складзе больш за 900 тысяч кубаметраў.

ФОТАСЮЖЭТ

## ЛІСТАПАД—СНЕГАПАД


Фота А. ГАНЧУКА.

Над лазнякамі голымі,
Дзе побач лес густы,
Уецца снег
між голлямі
Фарбуе ў бель кусты.
У галаве не ўмесціцца
Ні гэты шум, ні смех —
У лістападзе — месяцы
Дзяцей пацешыў снег.
Бягуць гурбой.
Вясёлыя,
І стомы ім няма.
Гаворыць восень
з сёламі,
Што снег —
шчэ не зіма.
Спускаецца
чародкамі.
Дзівосы, нібы ў сне.
Жыццё яго кароткае:
Паплыў вадою снег.
А дзеці?
Дзеці хмурацца.
Пазбаў іх Бог бяды.
Хай звоніць
наша вуліца
Запалам маладым.
У лістападзе-месяцы,
Зіма нас абміні.
Шчэ сонца
ў вокнах свецідца,
Гараць рабін агні.

*Пятро ВАЛІНСКІ.*

### Кінатэатр, двойчы народжаны

**БАРАНАВІЧЫ.** Аматары і работнікі кіно адзначылі 50-гадовы юбілей найстарэйшага і папулярнага ў горадзе кінатэатра «Кастрычнік». Былі цёплыя словы, добрыя пажаданні, кветкі, усмешкі. Усё — як мае быць, па рытуалу. Захацелася прыгадаць некалькі цікавых выпадкаў з гісторыі кінатэатра.

Гадоў 20 таму будынак яго капітальна адрамантавалі. У тыя часы чамусьці моцна абмяжоўвалася выдаткаванне сродкаў на капітальнае будаўніцтва ачагоў культуры. Мясцовыя ўлады пайшлі абходным шляхам: зачынілі кінатэатр на рамонт. Фактычна ж будынак знеслі да фундамента і ўзвялі новы. Ды з такой удалай архітэктурай, што ён і цяпер выглядае па-сучаснаму.

Прычынай для тэрміновага рамонту паслужыў трагікамічны выпадак са шчаслівым зыходам. У вялікай глядзельнай зале вісела прыгожая і вялізная жырандоля метры тры ў дыяметры. Нейк, калі закончыўся сеанс і апошнія гледачы пакінулі залу, яна са звонам і грукатам зваліася на крэслы. Вывучаючы прычыны падзення жырандолі, спецыялісты ўбачылі канчатковы знос канструкцый і вынеслі вердыкт: трэба знасіць. Паколькі існавала забарона на капітальнае фінансаванне, мясцовыя партыйныя і савецкія кіраўнікі падманулі сваіх патронаў дзеля інтарэсаў гараджан. Чаму мы радуемся цяпер, падчас святкавання 50-гадовага юбілею кінатэатра «Кастрычнік».

### Папярэдзіць гібель людзей ад пажараў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Райвыканкам зацвердзіў раённую праграму па папярэджанню гібелі людзей ад пажараў на 1997—2005 гады.

Цяпер, як у былыя добрыя савецкія часы, будуць праводзіцца раённыя агляды супрацьпажарнага стану жылых дамоў і населеных пунктаў, створаны добраахвотныя пажарныя дружыны і пажарна-тэхнічныя камісіі на ўсіх аб'ектах, а таксама класы і куткі пажарнай бяспекі.

Згодна з праграмай, асаблівая ўвага звернута на работу з дзецьмі ў садках, аздараўленчых лагерах, школах і школах-інтэрнатах, забяспечыўшы іх відэа- і кінафільмамі, плакатамі, метадычнымі дапаможнікамі і іншымі нагляднымі матэрыяламі па пажарнай бяспецы. Рэкамендавана праводзіць раённыя і рэгіянальныя конкурсы дзіцячага малюнка, конкурсы, віктарыны і іншыя масавыя мерапрыемствы.

Гарсельвыканкамам прапанавана за кошт дзяржаўных сродкаў у жылых дамах маламаёмных састарэлых грамадзян, інвалідаў, шматдзетных сем'яў рамантаваць няспраўныя печы і замяняць электраправады.

Патрабавана ад упраўлення капітальнага будаўніцтва і атрада ваенізаванай пажарнай службы забяспечыць комплекснае рашэнне пажарна-прафілактычных мерапрыемстваў пры праектаванні і будаўніцтве жылой забудовы ў населеных пунктах. Установы, арганізацыі і прадпрыемствы абавязаны ўключаць у свае планы эканамічнага і сацыяльнага развіцця пытанні пажарнай бяспекі і выдаткоўваць для іх рэалізацыі грашовыя сродкі.

Прапанавана на ўпакоўках прадукцыі прыборабудаўнічага і малочнага заводаў размяшчаць процівапажарную рэкламу.

Дзеля аператыўнага тушэння пажараў у сельскай мясцовасці неабходна населеныя пункты і аб'екты гаспадарання забяспечыць крыніцамі водазабеспячэння і тэлефоннай сувяззю.

Згодна з праграмай, рэлігійныя канфесіі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі раёна, павінны абмяркоўваць са сваімі прыхаджанамі праблемы пажарнай бяспекі.

СОЦИАЛЬНЫЙ АСПЕКТ

## ДЕНЬГИ ЕСТЬ, ЛЕЧИТЬ НЕЧЕМ

Райисполком, как и горисполком, тоже заботится об обеспечении сельской медицины финансами и материальными средствами. Но как они используются? За девять месяцев текущего года было выделено 2810 миллионов рублей. Из них 32,9 процента ушло на зарплату. При чем проверка показала, что некоторые врачи, будучи на больничном, получали ставки за совмещение в других подразделениях медсети. Имея свою прачечную, но не работающую, райздравотдел оплатил районному комбинату бытового обслуживания за стирку 227,2 миллиона рублей. Немалая часть выделенных средств затрачена на оплату коммунальных услуг. Лишь незначительное количество выделенных денег пошло на медикаменты.

А цифры состояния здоровья сельчан пляшут непонятно.

По отчетам снизилось количество больных туберкулезом. Между тем, в районе крайне мало людей проходят флюроографическое обследование. Потому, скажем откровенно, просто многие больные не выявлены. В прошлом году родилось 366 детей, а умерло 1016 жителей сельской местности. Село стареет, вымирает. Причин много. Тяжелая, малооплачиваемая работа, плохое обеспечение продуктами. К дорогим лекарствам вообще доступа нет довольно большой категории тружеников и пенсионеров. Зарплата низкая, а пенсия смехотворна. В районе есть «чернобыльская» зона повышенной радиации. Профилактики заболеваний по этой причине практически никакой. Власти ограничиваются только надбавками к зарплате и пенсии, так называемыми в народе «гробовыми».

В аварийном состоянии находятся Городищенская участковая больница, фельдшерско-акушерские пункты в деревнях Приозерная, Люшнево, Савичи, Голынка, Узноги.

Здоровье сельчан — не только забота самих больных, но и, кроме государства, местных сельскохозяйственных предприятий. Лишь в некоторых из них выделяют средства на ремонт медпунктов, приобретение медоборудования. Остальные наблюдают за страданиями тружеников полей со стороны.

*П. НАГНИБЕДА.*

Барановичский район.



ПОДПИСКА—98

*Ведется подписка на "Газету для вас" на первый квартал 1998 года.*

**Вас ждут в любом отделении связи Березовского, Ивацевичского и Барановичского районов.**

Цена газеты:
**на месяц — 8 тысяч, на два — 16 тысяч, на квартал — 24 тысячи рублей.**

**Индекс издания — 63834.**

*Газет для вас много. "Газета для вас" — одна.*

АФІЦЫЙНА

## Ад чыноўнікаў патрабуецца больш эфектыўная работа

**Аляксандр Лукашэнка падпісаў чарговае распараджэнне «Аб арганізацыі дзяжурства работнікаў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў».**

Згодна з гэтым дакументам цяпер па выхадных і святочных днях у выканкамах кругласутачна будуць дзяжурыць работнікі мясцовай адміністрацыі. Прычым з 9 да 18 гадзін несці вахту павінен нехта з ліку начальства. А ў астатні час кіраўнікі абавязаны паведамляць аб сваім знаходжанні альбо пакідаць нумар тэлефона, па якім іх можна знайсці.

Кантраляваць выкананне гэтага распараджэння будзе прэзідэнцкая адміністрацыя. Бо галоўная мэта выдадзенага дакумента — «забеспячэнне эфектыўнай работы» структураў улады на месцах.

● ВАША ПІСЬМО

# МАЛЕНЬКАЯ АЙЧЫНА

*Зноў і зноў успамінаю сваё летняе падарожжа да беларусаў Беласточчыны. І зноў абуджаецца ў сэрцы супярэчлівае пачуццё горычы і радасці, болю і надзеі. Радасць ад таго, што яны там, на чужыне, захавалі свае карані, мову, культуру, сваю беларускасць. Боль — што тут, на Беларусі, мы зараз губляем рэшкі ўсяго гэтага.*

Там, на Беласточчыне, яны не саромеюцца размаўляць па-простаму, як, напрыклад, у нас на Бярозаўшчыне ці Піншчыне. Яны добра ведаюць і беларускую, і рускую мовы. І дзяцей сваіх вучаць.

Веру сваіх бацькоў і дзяцей захоўваюць, нягледзячы на тое, што Польшча амаль цалкам каталіцкая краіна. Дзіўна было бачыць нядзельным ранкам перапоўненую царкву, дзе сабраліся на набажэнства ўсе беларусы — ад малога да старога. А ў час навучальнага года адбываюцца нават дзве службы. Першая — для дзяцей, другая — для дарослых. Сюды ж трэба дадаць яшчэ паломніцтвы да святых месцаў, будаўніцтва праваслаўных капліц, у якіх удзельнічае шмат беларускай моладзі.

А як беларусы Польшчы шануюць свае песні! Мне пашчасціла пабываць на музычным фэсце «Спасаўскія запусты» ў Бельску-Падляскім. Гэта было сапраўднае беларускае свята, на якім гучала ўсё — ад беларускіх народных песень да сучаснай пап-музыкі і хард-року. І ўсё зноў жа пабеларуску.

Сорамна і крыўдна было за нас. Сорамна, што беларусы Польшчы збіраюць гуманітарную дапамогу беларусам Беларусі і здаваласе б, наадварот, Радзіма-маці павінна дапамагаць сваім дзецям на чужыне. Сорамна адчуваць, што сапраўдныя беларусы — яны, а не мы. Няёмка было чуць пытанне: «Калі ж вы станеце беларусамі?»

У вядомага беларускага паэта з Беластока Віктара Шведа ёсць такія радкі:

***Мая маленькая***
***Айчына,***
***Я твой адданы***
***верны сын.***
***Цябе ніколі***
***не пакіну,***
***Мая калыска,***
***мой спачын.***

Як лязо па жывому, прайшла тая мяжа, падзяліўшы некалі адзіную Айчыну на вялікую і малую. Сёння яны робяць усё магчымае, каб застацца там — на сваёй зямлі, але ў чужой краіне, — беларусамі. І я ўпэўнены — яны, беларусы Беласточчыны, не згубяць, не пакінуць і зберагуць сваю малую Айчыну. А ці зберажом мы сваю — вялікую?

*Мікалай СІНКЕВІЧ.*
*в. Першамайская*
*Бярозаўскага раёна.*

● ДЗЕЦІ І МЫ

# ПЕРШЫ ЗАНАЛЬНЫ

***Праводзімыя ў Івацэвіцкім раёне конкурсы юных знаўцаў пажарнай справы сталі ўжо добрай традыцыяй. У сёлетнім навучальным годзе конкурс пайшоў на свой трэці вiток. Перад пачаткам восеньскіх канікулаў ладзіўся першы тур конкурсу, у якім бралі ўдзел вучні школ райцэнтра.***

А яшчэ ў першыя дні навучальнага года ў пажарнай часці райцэнтра адбылася нарада па пытаннях навучання малодшых школьнікаў правілам пажарнай бяспекі. На яе былі запрошаны завучы пачатковых класаў, намеснікі дырэктараў школ па выхаваўчай рабоце, выкладчыкі спецдысцыплін і педагогі-арганізатары 12-ці сярэдніх школ раёна. Тады і было прынята рашэнне пакінуць раней вызначаную форму работы з дзецьмі, г. зн. віктарыны, конкурсы, не мяняючы ўзрост школьнікаў.

У першым занальным туры каманды чацвёртакласнікаў паказалі цікавую, захапляючую гульню. У спаборніцтве ўдзельнічалі каманды «Выратавальнікі» СШ № 1, «Вогненны змей» СШ № 2, «Агеньчык» СШ № 3 і «Праметэй» СШ № 4. Ранейшымі заставалася большасць конкурсных заданняў. Работы «камплектавалі пажарны шчыт», «ратавалі маёмасць і жывёлін», вызначалі рэакцыю пры ўзаемадзеянні з агнём розных рэчываў і матэрыялаў, шукалі парушэнні супрацьпажарных правілаў у жылым доме, нават танцавалі з пажарным рукавом. Балельшчыкі, якія напачатку вялі сябе пасіўна, хутка змянілі свае адносіны да каманд і далей бурна і актыўна падтрымлівалі іх.

Першае месца на гэты раз занялі работы з СШ № 4 — каманда «Праметэй». Каманда «Агеньчык» з трэцяй школы, якая была лепшай у двух папярэдніх занальных і раённых конкурсах, прыйшла да фінішу другой. «Выратавальнікі» з першай школы заваявалі трэцяе месца, а «Вогненны змей» з другой школы завяршыў гульню чацвёртым.

Далей уручаліся Ганаровыя граматы і прызы пераможцам. Прадстаўнікі каманды-пераможцы атрымалі за сваё старанне (а яны прадэманстравалі даволі неблагія веды) мікракалькулятары. Яшчэ ў якасці прызоў былі наборы фарбаў і фламастэраў. Узнагароджаны і аўтары лепшых малюнкаў супрацьпажарнай тэматыкі. У іх ліку Сярожа Попін, Дзіма Кавальчук і Юра Жышко з СШ № 1, Іра Бахур, Алёша Муха і Юля Галашэўская з трэцяй школы, Саша Стрэльчык і Саша Дзерман з СШ № 2, Наташа Ступак і Аня Суханосік з СШ № 4 і іншыя работы. Частка прызоў прадастаўлена маладым івацэвіцкім прадпрымальнікам А. А. Дарэшка, на іншыя ўзнагароды грошы зарабілі самі арганізатары.

Каманда-пераможца прыехала ў сваю школу на сапраўдным пажарным аўтамабілі з сірэнай і ўключанымі блакітнымі маячкамі.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік*
*ЦНППБ АВПС-6*
*Івацэвіцкага раёна.*

● ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...

# Рысы характару ў залежнасці ад чысла нараджэння

**1**. Цікаўная (ы). **2**. Добрая (ы). **3**. Ціхая (і). **4**. Шчаслівая (ы). **5**. Актыўная (ы). **6**. Скваліная (ы). **7**. Злосная (ы). **8**. Скрытная (ы). **9**. Прывабная (ы). **10**. Абаяльная (ы). **11**. Непаўтаральная (ы). **12**. Няўдачлівая (ы). **13**. Разумная (ы). **14**. Любімая (ы).**15**. Самая лепшая (ы-ы). **16**. Капрызная (ы). **17**. Эгаістка (эгаіст). **18**. Нешчаслівая (ы). **19**. Нудная (ы). **20**. Няшчасная (ы). **21**. Прыгожая (ы). **22**. Энергічная (ы). **23**. Пяшчотная (ы). **24**. Наіўная (ы). **25**. Шчырая (ы). **26**. Непрывабная (ы). **27**. Раўнадушная (ы). **28**. Зменлівая (ы). **29**. Прыгожая (ы). **30**. Таленавітая (ы). **31**. Верная (ы).

# Для дома, для семьи, для души...

☺ ЗНАКИ ЗОДИАКА

## ♐ Стрелец (22.11 – 21.12)

Знаменитые личности-Стрельцы: Людвиг ван Бетховен, Нострадамус, Генрих Гейне, Жерар Филип, Эдит Пиаф, Уинстон Черчиль, Роберт Кох, Жан Маре, Иосиф Сталин, Уолт Дисней, Франсиско Франко, Альфред де Мюссе, Марк Твен.

Главные черты Стрельца – целеустремленность, энергия, жизненная сила, оптимизм. Он никогда не отказывается от борьбы за то, что считает правильным и справедливым. Его поступки направлены зачастую не на одну, а на множество целей. Он хочет разобраться в высших принципах, много путешествует.

Хорошо проявляет себя Стрелец на руководящих должностях, а также как бизнесмен, менеджер, медицинский работник, экскурсовод, стюард, пилот, водитель, ученый, юрист, спортсмен, актер. Женщины – активные общественные деятели, охотно ведут домашнее хозяйство и изучают иностранные языки.

Женщины-Стрельцы делятся на две категории. Одна с мужским характером, точнее, с мальчишечьим, — спортсменка, любит движение, походы, поездки, «гоняет» на мотоцикле, летает на дельтаплане, к браку и семье не приспособлена.Другая – светская женщина с независимым складом ума и без предрассудков.

☺ ПОГОВОРИМ ОБ ЭТИКЕТЕ

## Отобедаем вместе

Во врем еды при любых обстоятельствах не положено класть локти на стол. Локти на столе считаются очень плохим тоном. Руки держим таким образом, чтобы запястье опиралось о край стола. Помним принцип: вилку или ложку подносим ко рту, слегка наклоняя голову. Голова, «опущенная в тарелку», — тоже плохой тон.

Даже, если мы очень голодны, стараемся этого не показывать. Есть с аппетитом не означает есть с жадностью.Особенно девушки должны откусывать небольшими кусочками и в рот брать маленькими порциями; молодые люди могут не священнодействовать, есть по-мужски, но, конечно, всегда тихо и эстетично.

Не нужно паниковать при виде полотняных салфеток, искусно сложенных треугольником, домиком и т. д. Даже виртуозно сложенную салфетку без всяких сомнений разбираем и кладем на колени. После еды убираем ее с колен и оставляем на столе, около тарелки, не складываем, не разглаживаем. Закладывание салфетки под подбородок выглядит сегодня комично.

☺ ИССЛЕДОВАНИЯ

## Земля рискует превратиться в дюну

Площадь плодородных земель на нашей планете стремительно уменьшается, и уже через несколько лет человечество может столкнуться с одним из старейших и злейших своих врагов – голодом. Такой мрачный прогноз содержится в докладе, подготовленном неправительственной экологической организацией «Уорлдуотч».

Согласно собранным авторами исследованиям, потери плодоносных почв происходят «в каждой стране и на каждом континенте». Это очень тревожная тенденция, особенно если учитывать, что в течение ближайших пяти лет население Земли может увеличиться на 400 млн. человек.

В одном только Китае с 1986 по 1992 год было потеряно 5 проц. общей площади его пахотных угодий. В основном это произошло за счет урбанизации и развития промышленности. Несмотря на это правительство КНР выступает с планами основания 600 новых городов в ближайшие 14 лет.

Безрадостную картину представляет собой Россия, где деградация земель достигла чудовищных размеров. По оценкам исследователей, ежегодно страна теряет от 400 тыс. до 500 тыс. га плодородной почвы; эрозией поражены две трети пахотных угодий.

Наступление городов и зависимость некоторых районов от искусственного орошения отрицательно сказываются на производстве зерновых культур. В то же время интенсивные методы ведения хозяйства, первоначально достаточно эффективные для того, чтобы компенсировать потерю земель, исчерпали себя к середине 80-х годов. Борьба за урожайность достигла своего пика, и нынешние объёмы производства уже не в состоянии компенсировать ни потерю земель, ни рост населения.

По мнению авторов доклада, выходом из этой ситуации могут стать программы сохранения плодородных почв, проводимые сейчас в Европе и США и спасшие миллионы гектаров земель, а также совершенствование технологий сельского хозяйства и увеличение его продуктивности.

В противном случае, предупреждают ученые, «к 2020 году на каждого жителя Земли будет приходиться участок плодородной земли, равный по величине восьмой части футбольного поля. Если мы не сохраним земли, грядущие поколения могут заплатить за их потерю ростом цен на продовольствие и голодом».

☺ ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Чай, выручай!

Из чая можно приготовить лосьон для жирной кожи (он стягивает поры). Заварите небольшое количество чая минеральной водой, остудите, прибавьте несколько капель лимонного сока. Протирайте кожу по утрам и по вечерам.

Лучший компресс для уставших глаз, особенно после рабочего дня, — ватные тампоны, смоченные в крепкой холодной чайной заварке. Необходимо прилечь, тампоны положите на веки закрытых глаз, постарайтесь расслабиться. Пятнадцать минут такого покоя достаточно, чтобы глаза отдохнули.

Незаслуженно позабыт способ чистки ковра или паласа с коротким ворсом. Понадобится спитой чай от 3-4 заварок. Если за время, пока вы его собирали, он подсох, слегка смочите его водой. Влажные чаинки рассыпьте по всему паласу. Жестким венчиком подметите чай, двигаясь к противоположному краю паласа. Влажный чай к концу как бы «обрастает» сором и задержит пыль, не даст ей подняться. Палас станет чистым, цвет его будет ярче.

☺ УЛЫБНИТЕСЬ

— У моего папы вчера на работе взяли интервью!
— А обратно отдали?

● ПРОВИНЦИАЛЬНЫЕ ИСТОРИИ

По дороге на колхозный рынок дед рассказывал внуку разные байки о сале.

О том, как дядька инсценировал самоповешение после ссоры с женой и та, оставив соседку возле висящего «покойника», побежала звать милицию, а соседка, в свою очередь, освоившись с обстановкой, решила стащить кусок сала, а дядька это заметил и прикрикнул на нее, от чего у последней были переломаны обе ноги при прыжке со страху с чердака и т. д.

Как «хохлы» едят сало в голодные годы, укладывая маленький кусок на огромную краюху хлеба и, подвигая носом сало, откусывали то место, где оно лежало, а, съев краюху, заворачивали сало в тряпицу, прятали его в торбу, приговаривая: «Оцэ на! Вся сала з хлібом».

Возмущался непонятными сельскохозяйственными реформами нашего времени, искоренившими производство сала в Беларуси. Удивлялся пристальному вниманию всех правоохранительных органов страны к тому, чтобы, не дай Бог, в рот ошалелого от голода белоруса не попал кусочек польского дешевого и вкусного сала без налогов, пошлин, оплаты мест торговли и откупа от рекетиров. Принцип правительства: сам не гам, но и народу не дам, известен. Но голод, известное дело, не тетка и заставляет творить поистине чудеса, чтобы каким-то образом все-таки держать свиней и драть из них тоже самое сало... Дед разглагольствовал, а внук внимал и впитывал...

... Превратившись из обычного вида продукта в деликатес повышенного спроса, оно стало

# САЛО

предметом необычных жизненных баталий как вышерассказанных, так и совершенно неожиданных, в которые и попали вскоре старик с малышом.

В мясном отделе наткнулись на очередь. Конечно, здесь продавали дефицитное в магазинах сало. Стали наши покупатели в хвост очереди, дождались своего часа, отобрали кусок и бросили на чашу весов.

— 180 тысяч рублев, — объявил цену продавец, уткнувшись носом в микрокалькулятор.

— Значит, два килограмма, — вздохнул дед. Положил сало в подставленную внуком сумку и полез в карман за деньгами.

— Ах ты мразь! — Ой, ой! — Бей, его! — Спасите! — заорало, завизжало, захныкало сзади.

Все обернулись на крики. Двухметровый амбал в бело-кровавом халате мясника-продавца хлестал метровым куском сала низенького мужичонку.

— Вора поймали, — резюмировал дед и направился с внуком к выходу из павильона. На полпути его обдало жаром: не заплатил за покупку! Он резко повернул назад. Краснощекие молодчики-продавцы все еще судачили о случившемся.

— Это что же вы хотите меня опозорить на старости лет? — с ходу набросился дед на девчат. — Меня тут каждый второй знает. А потом будете пальцем указывать – вор!

— Ты че, дед? — удивился амбал. – Че бочку катишь? Мо этого захотел? — он поднес к носу деда кусок сала, которым стегал недавно воришку.

— Не рассчитали вы меня, понял? — истерично кричал дед. – Заваруха тут была... Я забыл, а вы пропустили. А вдруг опомнились бы, когда я уже у выхода был да кинулись за мной. А-а?! — наступал дед, размахивая деньгами, зажатыми в руке.

Амбал, разинув рот, выронил сало, молодухи с хохотом пересчитывали дедовы купюры.

— Ты че, старый, свихнулся? — опомнился мужик.

— Не все дома, — подтвердили продавщицы.

— Кати отсюда! — дружно наперли на нашего ветерана работники частного мясного прилавка.

Долго шли молча с рынка дедушка и внук. Каждый по-своему осмысливал слышанное и виденное. Наконец малыш встряхнул головой:

— Много я видал дураков на свете, но таких!..

Кого он имел ввиду, дед понял не сразу...

*П. НАГНИБЕДА.*

● СТОП-КАДР



*Жанчына з сумнымі вачыма*
*Сягоння застанецца зноў адна.*
*Халодны горад зазірае ў шыбы,*
*Клубок і ніткі ля акна.*
*Замоўк шматслоўны тэлевізар*
*І пыляцца староннкі тоўстых кніг.*
*Лунае голуб над карнізам,*
*Нібыта ўсё ў жыцці яе спасціг.*
*Пустая хата.*
*Мокры вечар.*
*Пужаюць вулкі думнай цішынёй.*
*У сненні моліць лёс аб лепшым.*
*Халодзіць восень плечы ёй.*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

● КРЫМІНАЛ

## "Аглы" не даехаў

Ведаючы крымінагеннае становішча не па чутках, а адчуўшы яго на сабе, людзі імгненна рэагуюць на падкопы ўсялякіх махляроў і злодзеяў. Так здарылася і ў цягніку Масква— Брэст. Адзін пасажыр заявіў пра прапажу дакументаў і грошай з выразанай кішэні. У другога зніклі таксама дакументы і залатыя ўпрыгажэнні. Праваднікі паведамілі пра гэта на станцыю Баранавічы-Палескія. Для вопытных супрацоўнікаў лінейнага аддзела міліцыі было справай тэхнікі вылічыць цягніковага злодзея. Ім аказаўся ўраджэнец Азербайджана Гасімаў Камiл Барат аглы. Падарожжа асобы каўказскай нацыянальнасці перарвалася ў Івацэвічах: тут джыгіта міліцыянеры папрасілі пакінуць вагон і пайсці з імі.

*(Наш кар.).*

## Шукалі медыкаменты

Невядомыя асобы выламалі дзверы медыка-санітарнай часці Баранавіцкага бавоўнянага аб'яднання і, не знайшоўшы медыкаментаў, прыхапілі з сабой 200 кілаграмаў фарбы. Яе захоўвала тут таварыства з абмежаванай адказнасцю «Барк», якое рабіла рамонт памяшкання. Злодзеі спынілі работу будаўнікоў і тым самым сарвалі ўвод у дзеянне медустановы.

Міліцыя шукае вінаватых гэтага сумнага выпадку.

*Н. ПЯТРОЎ.*

● ЗДАРЭННІ

## Упаў хлопчык з моста

Трагічна закончыліся гульні бярозаўскіх хлопчыкаў ля чыгуначнага маста праз раку Ясельду. Адзін з іх, чацвёртакласнік, сарваўся з металічных канструкцый маста і ўпаў якраз на лінію электраперадач. З моцнымі апёкамі няшчаснае дзіця даставілі ў раённую бальніцу.

Урачы рабілі ўсё, каб выратаваць хлопчыка, аднак ім гэта не ўдалося. Дзіця, не прыходзячы ў прытомнасць, памерла.

*(Наш кар.).*

г. Бяроза.

● КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

# „СЦЯНА" Васіля БЫКАВА ЎБАЧЫЦЬ СВЕТ У СЕРЫІ „НАРОДНАЯ КНІГА"

***Пасля шматлікіх прапаноў чытачоў і з ласкавай згоды народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава выдавецтва "Наша Ніва" прыступае да выдання яго новай кнігі прозы «Сцяна». Як вядома, гэта выданне рыхтавалася да выхаду ў дзяржаўным выдавецтве, але сённяшні палітычны рэжым спыніў гэтую працу.***

Мы далёкія ад думкі, што беларускае слова можа ў прынцыпе існаваць толькі за кошт дзяржаўных датацый, і мяркуем, што паміж творамі народнага пісьменніка, як, зрэшты, і іншых таленавітых літаратараў з аднаго боку, і чытачом – з другога, не павінны паўставаць непераадольныя бар'еры. Кнігі лепшых беларускіх літаратараў будуць выходзіць у такім аб'ёме і датуль, пакуль іх будуць чытаць.

Так нарадзілася ідэя стварэння серыі «Народная кніга». Мы не ставім перад сабой мэту знайсці спонсараў або зрабіць прыгожы жэст дабрачыннасці. Мы імкнемся насуперак афіцыйнай палітыцы русіфікацыі сцвердзіць, што беларускія кнігі могуць выходзіць за грошы і дзеля патрэб беларускага грамадства. Разам з тым мы спадзяемся на кансалідацыйны эфект «Народнай кнігі», якая павінна ўмацаваць нашае грамадства і дадаць яму сілы духу.

Кніга «Сцяна» складаецца з празаічных твораў Васіля Быкава апошніх гадоў.

Беларуская гісторыя XX стагоддзя стварыла нямала сітуацый, калі характары розных людзей па-рознаму выяўляліся на мяжы жыцця і смерці. Слуцкае антыбальшавіцкае паўстанне, Курапаты, другая сусветная вайна, «хрушчоўская» адліга, пераслед з боку КДБ у застойныя часы. Адпаведна рознымі былі і паводзіны міжвольных удзельнікаў гэтай гісторыі.

Васіль Быкаў у новай кнізе прозы паказвае, наколькі немагчыма, але наколькі важна на самых фатальных этапах гісторыі захоўваць чалавечнасць, прыстойнасць, годнасць. Псіхалагічныя сітуацыі ў крытычных абставінах становяцца напружанымі сюжэтамі, а дакладныя характарыстыкі самых розных чалавечых тыпаў змушаюць чытача ўвесь час адчуваць уласную прысутнасць сярод быкаўскіх персанажаў і рабіць свой маральны выбар.

Кніга Васіля Быкава «Сцяна» выйдзе ў свет сёлета. Выдавецтва «Наша Ніва» прымае папярэднія замовы на кнігу.

Нагадаем, што той, хто замаўляе кнігі «НН» да іх выхаду ў свет, аплочвае толькі сабекошт і кошт перасылкі, тады як гатовая кніга з гандлёвымі нацэнкамі будзе каштаваць значна даражэй.

Каб замовіць новую кнігу прозы Васіля Быкава «Сцяна», трэба 68.000 рублёў (кошт выдання) + 20.000 рублёў (паштовыя выдаткі) пералічыць на рахунак: БГФ «Наша Ніва», р/р 3015201930039, філіял «Гарант» АКБ «Поіск», г. Мінск, код 987.

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сектары «Для пісьмовага паведамлення» пазначыць назву кнігі, Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсць, тэлефон.

*«Наша Ніва».*





Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 24 лістапада ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: 225250, г.Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя "Газеты для вас".
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.



Тыраж 1100.
Заказ 2825.